# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1625) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 5 ЛІПЕНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.


## ГАЙНАЎКА ШУМЕЛА ПА-БЕЛАРУСКУ



Гайнаўскі хор заваяваў сэрцы ўдзельнікаў роднымі песнямі і зладжанымі галасамі.

Гайнаўка, як аніводзін іншы прамысловы горад у Беластоцкім краі, насычаны беларускай насельніцкай стыхіяй. Яна ў ім проста пераважае. Праведзенае тут чатырнаццатага чэрвеня Свята беларускай культуры было па-сапраўднаму агульнагарадскім. Тутэйшы амфітэатр не змясціў усіх зацікаўленых гараджан. Публіка расселася на ўсякіх блізкіх вышынях і хто дзе-як. Алеі парка былі запруджаны натоўпамі, а яго заплечча — сотнямі аўтамашын тых, хто прыехаў сюды з перыферыі.

На арэне амфітэатра несціхана змяняліся спявацкія і інструментальныя калектывы. Упачатак Свята выступіў па мікрафонах Аляксандр Баршчэўскі, старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, а таксама вядомы навуковец і паэт, беларускі палітычны дзеяч. Кожнае яго выступленне вылучаецца жывасцю слова яго беларускага, непасрэднасцю, экспромтам. Гаворачы пра эпахальныя падзеі нашага веку, ён трапна паказаў беларускі лёс у іх. Кастрычніцкая рэвалюцыя і першая дзяржава беларусаў, барацьба супроць санацыі і супроць знішчажэння беларускай нацыі, пекла акупацыі і выратаванне, умацоўванне народнай улады ў пасляваенне і адраджэнне беларускай культурнай субстанцыі, урэшце: быць беларусам гэта не значыць, каб быць супроць палякаў. Але інтэрнацыяналізм гэта не рэзыгнацыя са свайго нацыянальнага, наадварот, партнёрскі росквіт. Барскі ўмее даступна, аж да межаў банальнасці растлумачыць тое, што іншым здаецца непраўдападобна складаным, нават рызыкоўным. Гэта талент аратара. Трэба было паглядзець тую цішыню, у якой выслухалі яго тысячы гайнаўчан! І пагода спрыяла гэтаму, адплылі хмары чэрвеньскіх навальніцаў, ззяла сонца.

Пра ўсякае народнае свята вырашаюць мастацкія калектывы, спевы і музыка. Няспынна выступалі аматары беларускай песні з Дубіноў, фактычна квартала Гайнаўкі (можна дадаць: наймацней беларускага). У калектыве дубінцаў нямала ліцэістаў. Гэта добры задатак дзеля патрыятычнага выхавання будучай гайнаўскай інтэлігенцыі. Зачароўвалі сваімі песнямі спявачкі і спевакі з Дашоў ды Чаромхі. Колькі новых, дагэтуль нечуваных песняў можна было пачуць у іх выкананні! Дашоўцы слушна лічаць, што трэба карыстацца перш за ўсё мясцовымі скарбамі народнай культуры, далучаць іх да нацыянальнай культуры майстэрскім паказам. А хор з самое Гайнаўкі — тыпова нацыянальны, які жывіцца — зрэшты, знакаміта! — класічнымі ўжо (і не толькі) здабыткамі. Гэты хор мае ўсе магчымасці вырасці на захапляючага канкурэнта бельскіх „Васілёчкаў". Трэба, вядома, працы і трывалай згуртаванасці, таго ўсяго, што разумеем мы пад словам „калектыў". На гайнаўскім канвееры беларускай песні мы пачулі цікавыя спевы харыстаў і з суседняй з Чаромхаю мясцовасці Волька Тэрахоўская. Усе з кляшчэлеўскага закутка, і хоць само мястэчка Кляшчэлі маўчыць, аднак ваколіца яго — бо і Дашы тут — спявае, не наспяваецца, ажно радасна слухаць! Чамусьці мястэчкі рэдка ажыўляюцца самадзейнасцю, гэта сацыялагічная загадка.

У Свята беларускай культуры адбыўся бойкі гандаль кніжкай на роднай мове або польскімі пра Беларусь. Доўгая чарга чытачоў стаяла да століка, за якім Сакрат Яновіч падпісваў сваю „Беларусь, Беларусь". Кніжка гэтая, напісаная папольску і для палякаў у першую чаргу, на дзіва выклікае не меншае зацікаўленне і ў беларусаў, асабліва ў беларускай моладзі. Відаць, справа ў тым, што „Беларусь, Беларусь" дае ўяўленне пра веліч нашай гісторыі, пра якую не гаворыцца тут штодзень так, як пра гісторыю, напрыклад, Польшчы. Гэта свайго роду голад на гістарычную інфармацыю. „Беларусь, Беларусь" можа супакоіць гэты голад усяго элементарна, сігнальна, па-праўдзе, больш завастраючы яго. І гэта няблага, бо „Беларусь, Беларусь" тыповая літаратурная кніжка, яна эсэ? — паэма беларускіх гістарычных фактаў, і, як кожная паэма, карыстаецца дадзенымі ёй законамі мастацкага запісу. Патрэбна салідная кніга, тамы па гісторыі Беларусі, якіх усё няма і няма. Кніжку — вялікую яе кучу — раскупілі ў імгненне! Старыя і малыя, як кажуць у народзе.

Арганізаванне такога Свята — цяжкі высілак. І гэты высілак аказаўся пад сілу праўленню Гарадскога аддзела Беларускага



Эстрадна-вакальны ансамбль „Дубіны" заўсёды папулярны.

(Працяг на стар. 2)




### СЛУШНАЕ МУСІЦЬ СПРАЎДЗІЦЦА!

Пане Махнацкі, хоць вы і дыхаеце палемікаю, але я дазволю сабе не пагадзіцца з вашай публікацыяй „Рабіць на гультаёў", змешчанай у „Ніве" ад дваццаць першага мая. Мяне менш цікавіць тое, што вы кусаеце за зад Рудчыка, хоць я з Рудчыкам больш згодны (а можа не зусім я зразумеў вашы інтэнцыі?). Ну, згодны я з Рудчыкам, дык згодны: трэба, каб будучая наша інтэлігенцыя пакаштавала фізічнае працы, трэба ламаць „комплекс хамута", які сваіх дзетак гадуе на панкоў, чыстаручак, а ў выніку — на лайдакоў яны вырастаюць! У Заходняй Еўропе сын прафесара становіцца механікам ці „замятайлам" якім, і ніхто там не трагізуе з таго. А наш прафесар, каб трапіўся яму такі сынок, дык стары павесіўся б пэўна ад ганьбы!? Такі наш прафесар настолькі хворы „комплексам хамута", што нават сваё найдурнейшае дзіця ўвапхне ў дацэнты або ў дырэктары. Гэта адна з нашых страшных рысаў, якая не дае нам і ўсяму народу разгону, бо вынік такі, што нярэдка дурні кіруюць справамі, якія патрабуюць вялікага розуму. Вось так. Няхай ліцэісты трохі памахаюць лапатамі і віламі, то можа падлечацца, менш застанецца ў іх маладых і падатлівых на дэмаралізацыю душах таго няшчаснага комплексу... А Рудчыка вы лішне лаеце: жывем у краіне вольнай і дэмакратычнай, і кожнаму дадзена права выказаць свае думкі, не абавязкова слушныя. Вы — дарослы чалавек і даўно ведаеце, што людзі кіруюцца ў сваім жыцці не толькі слушнымі думкамі. Каб пераважалі ў нашым жыцці слушныя думкі, трэба даць публічны голас і няслушным, трэба даць магчымасць дыскусіі: няхай змагаецца слушнае з няслушным. Калі мы не ўмеем думаць, то ў нас пераможа няслушнае, але гэта здарыцца ў будучую навуку нам усім. Народ — гэта не студэнты, якія — верачы ці не верачы — паўтараюць сказанае ім на лекцыі, бо экзамен з таго потым здаюць. А народ здае свой экзамен не ў прафесараў, а цэлым сваім жыццём. Слушнае мусіць спраўдзіцца ў непасрэдным дасведчанні саміх жа людзей, інакш слушнае не будзе слушным. Вось так, пане Махнацкі!

Кастусь Сідаровіч

## СУСТРЭЧА Ў РАДЗЕ ДЗЯРЖАВЫ

12 чэрвеня 1987 года намеснік старшыні Рады Дзяржавы Тадэуш Шэляхоўскі прыняў пяціасабовую дэлегацыю ад Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ і Грамадскага камітэта пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху. У яе склад уваходзілі: Аляксандр Баршчэўскі, Янка Зенюк, Канстанцін Майсеня, Ян Войцюк і Віталій Луба. Старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі паінфармаваў аб галоўных напрамках дзейнасці нашага таварыства і вышэй адзначанага камітэта, а таксама аб цяжкасцях, з якімі змагаецца наша арганізацыя. У час сустрэчы былі абгрунтаваны патрэбы беларускага аматарскага руху, выдавецкай дзейнасці таварыства і пабудовы музея ў Гайнаўцы.

Нацыянальныя меншасці

## ЧУЖАЯ АЙЧЫНА

Днямі ў беластоцкіх кнігарнях з'явілася кніжка Ежы Тамашэўскага „Айчына не толькі палякаў“ з падзагалоўкам „Нацыянальныя меншасці ў Польшчы ў гадах 1918-1939“. Кніжка з новай гістарычнай серыі Маладзёжнага выдавецкага агенцтва „Ля крыніц цяперашняга часу“.

Ежы Тамашэўскі добра ведае справы, аб якіх піша. Не раз узнімаў іх на старонках цэнтральнага друку. І ўсё ж кніжка ўражвае. А для маладых чытачоў будзе яна сапраўдным адкрыццём. З увагі на нязвыклую нацыянальную стракатасць II Рэчыпаспалітай і адносіны яе да гэтага каларыту. Ежы Тамашэўскі прысвячае ўвагу кожнай нацыянальнай меншасці, паказвае ўмовы, у якіх кожная з іх жыла, выяўляе імкненні нацыянальных меншасцяў і дзяржавы. Тут канфлікт быў ад пачатку да канца. Нацыянальнае пытанне ў даваеннай Польшчы так і не было вырашана. Імкненні нацыянальных меншасцяў дзяржава разглядала як пагрозу для сябе і польскасці, і душыла ўсімі сродкамі. Ужо самое існаванне нацыянальных меншасцяў выклікала ў кіруючых колах трывогу. Адсюль сляпая асімілятарская гарачка.

Матэрыял багата дакументаваны статыстычнымі дадзенымі, фотаздымкамі, змяшчаецца бібліяграфія.

Кніжка Е. Тамашэўскага пашырае не толькі веды аб нацыянальных меншасцях у Польшчы, але і дае стымул для роздумаў. Пасля „Рэчыпаспалітай многіх народаў“, якая выйшла раней, новая кніжка Е. Тамашэўскага з'яўляецца найбольш поўнай крыніцай ведаў аб нацыянальных меншасцях у даваеннай Польшчы.

„Польшча была супольнай роднай зямлёй як палякаў, так і жывучых у ёй нацыянальных меншасцяў, не патрапіла аднак абяспечыць ім сапраўднай роўнасці правоў і абавязкаў, — падводзіць вынікі аўтар. — Рахунак за такое становішча плацілі мы супольна“.

На жаль. **Юрэ**

Jerzy Tomaszewski — Ojczyzna nie tylko Polaków. Młodzieżowa Agencja Wydawnicza 1985, nakład 29 700 egz., s. 220, zł 245.

(Працяг са стар. 1)

## ГАЙНАЎКА ШУМЕЛА ПА-БЕЛАРУСКУ

грамадска-культурнага таварыства ў Гайнаўцы, ясная справа, не без помачы партыйных і адміністрацыйных уладаў горада (які разгортваецца ў другі пасля Беластока). Іван Якімюк, Сяргей Харкевіч, Гэля Ігнацюк, Аляксандр Іванюк — дзеячы, ад якіх залежыла ва ўсім у задуманым мерапрыемстве (не першым ужо, дарэчы). Варта прыгадаць у гэтым месцы і маладзюсенькіх дзеячоў нашага таварыства, Юрку Вапу, Валю Пракапчук, Крысю Гаўрылюк, Крысю Ходак. Гэта яны наладзілі стойбішча з кніжкамі, спраўна рэгулявалі патокам пакупнікоў, часта даючы патрэбную інфармацыю пра тое або іншае выданне. А ўсё ў сумятні, такой кірмашнай.

Былі госці. З Бельска, Беластока, Варшавы. Пабывала Зоя Смаршчок, беларуска з Бельгіі. Яна з цікавасцю азнаёмілася са станам пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і ахвяравала на яго, што магла — немалую ў нашых умовах суму шасцідзесяці доляраў ад сябе асабіста. Узнікла прапанова наладзіць публічную скарбону для вулічнага збору грашовых сродкаў. Публіка сама гэта падказала, просты і даўно вядомы спосаб, да якога чамусьці не дадумаліся арганізатары народнай справы.

Добрае гэта было свята!

**А. Анташэвіч**

Фота В. Рудчыка



Жаночы хор з Волькі Тэрахоўскай здабыў прызнанне публікі сваёй сапраўднай народнасцю.



Сакрат Яновіч (злева) і Алесь Барскі (справа) падпісваюць свае кніжкі.

Адзінаццатага чэрвеня адбыўся з'езд карэспандэнтаў „Нівы“. Адбылася гарачая, шматгадзінная размова. Гранічна шчырая, часам аж да сухасці канкрэтная. Грамадская, набалелая і адказная!

Карэспандэнты не былі б карэспандэнтамі, калі б не думалі перш за ўсё пра свой часопіс. Пра яго грамадскую пазіцыю. Пра тое, каб „Ніва“ рабілася ўсё больш патрэбнай людзям. А меркаю гэтай патрэбнасці з'яўляецца лічба чытачоў, тыраж. Газета — не цыркуляр, няма абавязку чытаць і ведаць яе. Яна жыве, так сказаць, з ласкі добрае волі. Захачу — выпішу „Ніву“, не захачу, то і не выпішу. Захачу толькі тады, калі яна мне ў нечым патрэбная. Дзеля духа, дзеля інфармацыі, навукі ці нават адпачынку.

Як у жыцці, ёсць важнае, менш важнае, або і зусім няважнае. Для чытача галоўнае — гэта шчырасць публікацый. Хто ж любіць быць абдураным? Ян Мордань гэтую канстатацыю дапоўніў яшчэ вось як: трэба пазбягаць, як агню ў стадоле, таго, каб той, хто бярэ ў рукі нашу „Ніву“, не адчуў сябе трактаваным, бы малое дзіцё! Мордань малады, але ён трапнэ ўзбагаціў думкі нестара карэспандэнтаў „Нівы“, васьмідзесяцігадовага Кастуся Пятэльскага (віншавалі яго з дастойнымі ўгодкамі, творамі вялікага Васіля Быкава абдарылі!). Чаму прападае вёска? Чаму распісваемся мы пра другарадныя прычыны гэтага? Адмоўчваемся ў найважнейшым: гаспадаром застацца — гэта жыццёвая няўдача! „Мой адзін зямляк, пераязджаючы ў горад, плакаў рэўнымі слязьмі, пакідаючы добрую гаспадарку і дом, пакрыты бляхаю, — гаварыў Дзед Кастусь. — Пасля я спаткаў яго неяк на шумным тратуары, задаволенага такога... Кажу яму: ты ж плакаў! А ён мне на тое: бо я дурны быў!“ Эканамічны рахунак цяпер такі, што, — як вобразна адзначыў Хведар Хлябіч, — нават гультай на будове, прастаяўшы дзень над рыдлёўкаю ў руках, маецца лепей, чым




сярэдні гаспадар са сваім трактарам. Мець зямлю сваю і жывіну, значыць: нікуды ты не адлучышся, нічога не пабачыш у свеце, і кніжкі не прачытаеш (заснеш над ёю ад стомы!), няволънік ты ўласнага багацця, маёнтка. Жартам кажучы: і памерці няма калі! Свінням дай, каровам дай, каня дагледзь, авечак, курэй, поле і агарод, і з гміннікамі („ужэнднікамі“) яшчэ пасварыся, каб аформілі табе тое, што павінны, але ім не хочацца. У тэлевізары кажуць: прыгожая пагода каля мора і ў гарах, натоўпы працоўных адпачываюць. Уся Польшча, можна падумаць, сядзіць летам на беразе Балтыкі або ў Карпатах. Слухаю я гэты тэлевізійны клёкат і думаю сабе: а ці хаця адзін гаспадар ёсць у тым радасным натоўпе заслужана адпачываючых? А павінен, бо — хлеб з поля і стадолы, мяса з лугоў і хлявоў, і хлеб з мясам кожны есць, без хлеба стаяць фабрыкі, канаюць гарады. Дык чаму тое, што самае важнае, хлеб менавіта, без якога няма жыцця і радасці, у гэткай непашане? Хлебароб, як падчалавек які!

Валянцін Семянюк — перадавы гаспадар, які ў нашых умовах намагаецца пераступіць ужо ў дваццаць першае стагоддзе, энергічны і даўно вырaслы з комплексу беларускага „дзякавіча“ (дзякую за тое, дзякую за сёе, дзякую, дзякуючы, дзякую...). Яго выступленне хоць адразу на першую старонку „Нівы“ заплануй! Доказна, дакладна, з веданнем бакоў справы, паказаў, як мы, асабліва тыя, хто выконвае нізавую ўладу, вылазім і вылезці не можам з дзевятнаццатага стагоддзя. Тэхніку марнуем, ідэалогію кампраметуем, працу спустошаем. Нечуваная дэмаралізацыя! Машыну купіш, — запасных частак не набудзеш, паслугу закажаш — хабар дай, са скаргай на гмініка пойдзеш у вярхі — потым жыццё табе абрыдне, урэшце, сыну гаспадарскаму дзяўчыну і не падумай сватаць, бо засмяе яна цябе ўшчэнт. Пя-

(Працяг на стар. 4)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 337

## З ПАЭТЫЧНАГА СУСЕДСТВА

*Як ведаем, знаёмства польскага грамадства з беларускай мастацкай літаратурай застаецца ўсё, на жаль, вельмі павярхоўным. Зроблены, праўда, пераклады таго-сяго з Багдановіча, Купалы, Танка, Быкава ды яшчэ крыху з іншых чатырох-пяці аўтараў (у большасці дзякуючы намаганням Лодзінскага выдавецтва), але ўсяго таго набярэцца жменька, не болей. Таму з надзейнай радасцю ўспрынялі мы вестку, што канцэсію на публікацыю перакладаў з беларускай мовы атрымала таксама выдавецтва „Паазер'е" ў Ольштыне. Пажадаем жа Ольштынскаму літаратурнаму асяродзю плённай працы ў гэтай галіне.*

*З нагоды свята адраджэння Польшчы друкуем вершы паэтаў з Ольштына ў перакладзе Яна Чыквіна.*

**Ежы Адам Сакалоўскі** (нар. у 1937 г.)

* * *

Баюся слоў, раптоўна сказаных.
Бо: здрадніцтва — хвароба — смерць
Куды больш значыць, чым называюць.
А словы: каханне — радасць — шчасце
Значыць на многа менш, чым абяцаюць.

Паміж такім добрым і кепскім словам
Бачу рэчаіснасць, на нас падобную.
Ад якой — нельга ўжо нічога адняць,
Да якой і дадаць — нічога ўжо нельга.

### ПАДАЗРОНАЯ СІМЕТРЫЯ

У маім доме
Ёсць два сталы
На адным ляжыць хлеб і сыр
На другім стаіць труна.

І два крэслы
На адным я сяджу
Другое крэсла адпачывае.

Ды дзве шафы
Адна насупраць люстра
Другая ўглядаецца ў вакно
Здаўна яны наракаюць на болі ў нагах.

У маім доме
Ёсць двое дзвярэй
Праз адны я ўвайшоў
А другія баюся адчыніць.

**Юзэф Яцэк Роек** (нар. у 1939)

* * *

Нязменна ўецца дарога,
З якой развейваецца святло і цярпенне —
Шпалеры дрэў
І пясок.

Ідучы,
Спатыкаюся
Аб усё глыбейшую памяць —
Непрымірымец.

* * *

Няспынна
Іду я
З посудам да вады
Па ўскраю вогнішча.

* * *

### РЭНАЦЕ

Пішаш аб шторме — аб хвалі магутнай,
Як на цябе налятае ды з сыкам адыходзіць,
Каб зноўку яшчэ раз падняцца —
Паволі тады пакідаеш той бераг.

А я кажу: той вецер і хваля,
Што бераг жуюць і гінуць ў бяскраі,
То мова пачуццяў шалёных ў людзіне —
Вось чаму зямлі гарызонт стаецца дрыготкі.

— У гэты дзень стыхіяў аб сабе падумай
Ды мне з'явіся ў пачуццях і будзь мне над морам.

**Стэфан Полам** (нар. у 1938)

### ЖНІВО

А чый гэта сон? У кім ён выспеў і цяпер
Ужо нават не ўспамінам ён, а буйным
Жытнім дыханнем восьмага месяца гэтага
Года. Ішлі раўнамерна, пракос за пракосам,
У белых кашулях спацелых, рукі
Мараплаўцаў на пахваляваных калоссях.
Сонца над імі.
Матылі мігцелі ў спёцы, птушкі ў арэшніку
Поўзалі непадалёкай ручаінай.
Яна цякла па іржавых каменнях,
Абымшэлых карэннях. Цурчанне жывой вады
Поўдня.
У рытм пракосу ступаў хлопец са жбанам
Кавы халоднай. Ступаў асцярожна,
Бо штораз шырэйшым кругам ішло іржышча,
А лёгкі подых ветру авяваў яго мізэрную
Постаць.
Так я гляджу на сябе.
Даўно гэта было, так даўно, што зноў
Там я.
І ноччу, разам са зморанымі касцамі,
Я, сын восьмага месяца гэтага года,
Сплю на велічэзным іржэўніку забыцця.

### ПРЫГОЖЫ МІГ

Дрэў цеплыня, жывічны пах лесу,
Нерухомая папараць, арасы
Пальмянага чэрвеня. На сонечнай паляне
Заваражаная летам выпадкова ўмела
Ты свет стварыла ў сваім непаўторным
Кшталце, якога ўжо няма нідзе.
Нямее прыгажосць без твайго
Існавання. Шчаслівыя хвіліны, неба,
Парыў у блакіт і словы, словы,
Звінячыя над імхамі славаю лясною.

Віктар Швед

## РОДНАЙ МОВАЙ ДАРАЖЫ

Ты, дружа мой, запамятай:
У жыцці ніколі ў агарод,
Дзе кроўны твой жыве народ,
Каменем не кідай!

Мой мілы дружа, размяркуй:
Калі са студні заўсягды
Напіцца хочаш ты вады,
У студню гэтую не плюй,
Не плюй!

Ніколі, дружа, не кажы:
— Я не люблю айчынных слоў,
Мова мая найгоршай з моў.
Ты мовай роднай даражы,
Даражы!

Калі б ты многа меў спакус:
Нейк адцурацца ад сваіх,
Прыліпнуць недзе да чужых,
Кажы заўсёды: беларус,
Я — беларус!

## МАТУЛЯ ВУЧЫЛА СЫНА

Матуля вучыла сына:
— Кахай дарагую Айчыну!

Матуля прыгадвала словы:
— Шануй беларускую мову!

Матуля вучыла штогод:
— Любі беларускі народ!

Пакляўся сын слова стрымаць:
Любіць, шанаваць і кахаць.

Сынок, ці стрымаць ты гатовы
Матулі дадзена слова?

## КАЛІ СПЫТАЮЦЬ —ХТО ТЫ?

Калі спытаюць:
— Хто ты? —
Вядома, я не трус,
І адкажу з ахвотай:
— Я — заўжды
Беларус!

Калі спытаюць:
— Цёзка,
Адкуль ты?
Чый ты сын? —
Скажу ім:
— Я — сын вёскі,
Я — заўжды
селянін!

## СНІЦЦА ВЁСКА БЕЛАРУСКАЯ

Сніцца мне сцяжына вузкая,
Што вядзе мяне дамоў.
Сніцца вёска беларуская
Між палеткаў і лугоў.

Сняцца людзі мне вясковыя,
Працай зmoраны сваёй,
З мілагучнай роднай моваю,
З нашай песняй дарагой.

Сніцца моладзь мне шчаслівая,
Нашы дочкі і сыны,
Яна працай карпатліваю
Творыць заўтра без вайны.

Паўтарайся мара сонная,
Сніся поле, неба сінь.
З клеткі гарадской бетоннае
Рвецца сэрца ў далячынь.

Віктар Швед

## РОСКВІТ І ЎПАДАК БЯДОЦІКА

Бацькі Марка Бядоціка былі з тых беларусаў, якія мала не цэлымі вёскамі перабраліся ў пасляваенныя гарады. Лічылі яны гэта шчаснай доляй, пра што неяк абавязкова гаварылі, асабліва ў нядзелі за абедам. Марк нарадзіўся ўжо ў іхняй камунальнай кватэры, і тыя размовы ён ад малога чуў. Слухаў іх, як байку, да якой усё дадаюць і дадаюць. Гадаваны на паночка, Марчык рана завёўся з паненкамі, сцяміўшы, натуральна, што яму лепей будзе маўчаць пра сваіх бацькоў. Мацерка рабілася служанкаю яму, а бацюль у нечым нагадваў сабою знаходлівага арандатара. Яны чамусьці даволі раптоўна паўміралі, адно за адным, напакідаўшы прыстойныя запасы ўсяго і грошай.

Такія, як Марк Бядоцік, жэняцца не ад кахання. Стаўшы на работу, ён проста знюхаўся са сваёй начальніцай. З ёю былі яму зноў усё пірагі.

Рэне Выдрыцкай — пра яе гэта тут — Марк як бы з нябёсаў сыйшоў! У навагодні баль яна адкрыла маладзіку рай жыцця з жанчынай прыгожай і культурнай, а прытым і з вельмі заможнай. Ёй якраз дарэчы быў такі, а яму — менавіта такая, як яна. Што і казаць, кар'еру Рэна мела, дабіўшыся, чаго хацела, самым лёгкім інтэлігентнай лялечцы спосабам, ды напаследак займела, во, маладзюсенькага мужа сабе. Абое — Рэна і Марк — добра выйшлі на гэтым: замужняя каханка гэта залаты інтарэс і ёй і яе мужу, калі яны на службе. Дзяцей яна не магла ўжо мець, а ён і не заўважыў таго, і жылі яны звычайна, як падкі на баб мужчына з круцелеватай модніцай. На ўсенька хапала ім, і ў Парыж або ў Лондан з'ездзіць.

Смерць дырэктара фірмы выклікала радасць у Рэны! На яго месца прыслалі хвацкага шанцоўніка, які неўзабаве зрабіў Рэну сваім намеснікам. Але на гэтым і скончыліся яе ўдачы. Далей жыць трэба было нажытым і тады яна як жанчына

(Працяг на стар. 8)

 




## НЕ ЗАБАРОНЕНА, ЗНАЧЫЦЬ: ДАЗВОЛЕНА!

У апошніх нумарах „Нівы“ я бачу здымкі пад агульнай назвай „Краявід перад патопам“. Добра, што Юрка Баброўскі ўвекавечвае той краявід, які ўцалее толькі на фотках. Думаю, што сялянскія хаты не будуць пакінуты на затапленне, не будуць дагніваць на дне Семяноўскага заліва. Каб наш народ быў больш энергічным, дык знайшліся б ахвотныя беларусы з грашыма, выкупілі б гэтыя хаты і танным коштам стварылі б турыстычную базу. Вядома, не такую элегантную, як хацелася б таго, але ўсё-такі і неблагую, а перш за ўсё вельмі ж арыгінальную. Падумалася мне тут пра нашу моладзь, пра студэнтаў, якія так спраўна наладзілі свой кангрэс у Бельску (нядаўна чытаў я пра яго ў „Ніве“). Цяпер жа ў краіне адчынены ўсе шляхі дзеля ініцыятыўнасці, энергічны чалавек перастае быць падазроным, у такой энергічнасці ўся надзея выхаду з крызісу, у які мы ўваліліся, як добрыя дурні. Сам прэм’ер-міністр Польшчы сказаў у Сейме: калі што не забаронена, значыць — дазволена! А я пытаюся: ці забаронены падвойныя назвы беларускіх мясцовасцяў, па-польску і па-беларуску? Магчыма, быў бы сэнс утварыць дзеля гэтага нейкую беларускую турыстычную арганізацыю ці нефармальную групу? Гэта ж не забаронена. Іншыя ствараюць падобныя, чаму не павінны стварыць і мы, беларусы?!

І яшчэ адна справа, пра якую хачу сказаць. Пра багатую публіцыстычную спадчыну вялікага беларуса Браніслава Тарашкевіча. Мы ж (акрамя спецыялістаў) пра яе практычна нічога не ведаем. Трэба яе выдаць асобнай кніжкай і масавым тыражом, каб была яна даступная кожнаму, хто захоча, не толькі вузкай жменьцы гісторыкаў-прафесіяналаў. Перш за ўсё я маю тут на ўвазе выступленні Тарашкевіча ў даваенным Сейме, якія захаваліся ў цэласці ў стэнаграмах.

**М. Махнацкі**

## КАЗЫЧЫ, АЎРОРА, КАЗЫЧЫ!

У „Казытках Аўроры“ я прачытаў, як з асаблівым патрыятызмам і любоўю ставіцца яна да роднага народа, намагаецца абараняць яго слушныя справы і... абаронцаў гэтых справаў, якія знаходзяцца ў Беларускім таварыстве. На жаль, не ўсё наша таварыства гэта змагары, ёсць у ім, так сказаць, розныя актывісты і дзеячы. Гэтых розных дзеячоў і апісаў Міхась Шаховіч у „Кантрастах“, кажучы, што яны ціхенька сядзяць і не чыхаюць, і варон на небе злічваюць. Часам паплачуць яны, што беларускія справы ідуць у магілу, і то не загалосна паплачуць, каб, крый Божа, не пачуў хто, каму такі плач не даспадобы. Найлягчэй і най-

(Працяг на стар. 11)




(Працяг са стар. 2)

тэльскі дагаварыў: усё роўна, як бы ўсе моцныя гэтага свету і нашай дзяржавы заеліся на гаспадара!

Нястомны змагар за годнасць хлебароба, Мікалай Панфілюк, звярнуў увагу на вельмі істотную з’яву адставання культурнага прагрэсу ад гаспадарчага прагрэсу. Варварская заваражанасць шрубкамі і вінцікамі, дзікай моцаю матора і нікелевай ручкай дзверцаў аўтамашыны. У цырку малпа і тая на матацыкле шыбуе, але гэта не значыць, што яна дарасла да таго, каб гэтым матацыклам па-людску карыстацца. А ідэя? У нейкім сэнсе і яна механізм, уводзіць у рух грамадства. Не хаатычна; хаос магчымы, калі механікамі няўмекі з малымі мазгамі. А гміннікі? Божа, будзе ўжо сорак тры гады, як паны



— Без грамадска важных фактаў не можа быць добрай карэспандэнцыі, — пераконвае С. Яновіч. — А яшчэ горш, калі гэты факт нецікава апісаны, бо гэта вялікае марнатраўства матэрыялу...



Кажуць, што вёска моцна пастарэла... Праўда, але гэтага неяк не відаць па нашых карэспандэнтах.

прапалі па маёнтках ды, аднак, адпомста іх — як бы класавая! — проста з магілы: дзеткі ўчарашніх парабкаў горш паноў парабіліся! Адкуль яны і набраліся ўсяго таго? Магія часу ці ганьбаванне сваім бедным родам? Загледжанасць мужыка на пана? „Па-беларуску загавары да такога, дык ён так вырачыцца на цябе, усё роўна як бы ты яму ў морду даў!“

Ясь Целушэцкі — калісьці засыпаў ён „Ніву“ карэспандэнцыямі з Нараўкаўскай гміны — прызнаўся: купляе новы нумар і нецярпліва шукае ў ім рубрыку „Адгалоскі“. Кажа: аднаго прачытаеш, яго рацыя. Потым другога, апанента, і — выяўляецца — той не меў рацыі... Пасля такой палемікі, гімнастыкі на мазгах, прыходзіць да цябе такі момант і дзень, у які пасаромеешся самога сябе: чалавеча, скажаш сам сабе, чаму ж я без уласнай думкі?! Чаго варты такі, які ўсім прызнае рацыю? Ён жа нічога не разумее! „Адгалоскі“ я люблю чытаць, яны вучаць думаць, заўважаць і аналізаваць, не чужым розумам жыць“, — закончыў Ясь. Ён, як і іншыя, гаварыў не толькі пра гэта (між іншым, што і папулярнасць „Нівы“ не малая, калі памятаць, колькі беларусаў у краіне).

Выступалі амаль усе, некаторыя па некалькі разоў.

Разам з канцом вёскі скончыцца грамадская істотнасць беларускай нацыянальнасці і яе мовы. „Ніва“ ў горадзе не будзе дамінаваць так, як дамінуе яна ў сельскіх ваколіцах. Беларусы-гараджане малалікія, маргінальныя, таму пытанне вёскі ў кантэксце гарадызацыі гэта магістральная тэма. Гаворачы пра лёс гаспадара, карэспандэнты гаварылі адначасна і пра лёс сваёй газеты, пра тое, ці ёсць у яе будучыня, а павінна яна быць!

Арганізатары з’езда выступілі, вядома, напачатку. Справядлівей, аднак, будзе сказаць пра іх напаследак. Не толькі таму, што так дэмакратычней, бо хто каму тут служыць: карэспандэнты ім, ці яны карэспандэнтам і чытачам? Мікола Гайдук ад імя кіраўніцтва рэдакцыі прадставіў і перадаў на развагу з’езда тэматычную палітыку ў часопісе, акцэнтуючы шуканне месца „Ніве“ ў новай грамадскай сітуацыі, у якой масавага чытача трэба знаходзіць там, куды перамяшчаецца асноўная маса народа, у мястэчках і гарадах правінцыі, якія будуць выконваць эканамічную ролю сумы даўнейшых вёсак. Быць далей або не быць „Ніве“! Сусветная практыка паказвае, што, каб мець прыстойны даход, трэба рабіць на вялікіх гаспадарках (фермерскага тыпу?) або ў сельскагаспадарчых комплексах, больш зразумелых нам на прыкладзе ПГРаў ці колішніх маёнткаў. У высокаразвітых краінах свету працуе ў сельскай гаспадарцы ўсяго некалькі працэнтаў насельніцтва (4 — у ЗША, 5-7 — у Заходняй Еўропе). А хлеба даюць яны столькі, і мяса з малаком, што і нас могуць заваліць дабром (вядома, не задарма). У Польшчы пакуль што трыццаць працэнтаў робіць зямлю і хлеба свайго не маем на цэлы Божы год. Як дзяржава. Законы эканомікі бязлітасныя, у іх нічога не вымаліш і не выплачаш: палічышся з імі, не пашкадуеш, а калі не, дык у дурнях застанешся!

Сакрат Яновіч не толькі падпісваў сваю „Беларусь, Беларусь“ карэспандэнтам, але і гаварыў пра майстэрства пісаць карэспандэнцыі. Без грамадска важных фактаў немагчыма добрая карэспандэнцыя. Талент карэспандэнта гэта ўменне адшукаць такі факт і цікава перадаць яго пісьмова. Цікавы факт, нецікава апісаны, як бы перастае быць фактам, бо пра яго мала хто прачытае, з бядовага няўмельства апісаць не дойдзе ён да шырэйшай свядомасці. Грамадска важны факт гэта такі, пра які „шум пайшоў у народзе“. Але не толькі нашумеўшыя факты трэба лічыць важнымі, бываюць і цішэйшыя, і ўжо справа розуму карэспандэнта — закласіфікаваць такі факт у важныя ці ў няважныя, пра якія можна і не гаварыць. І яшчэ: знаходзімся ў абцугах уплываў двух вялікіх культур і моваў, польскай і рускай. Таму патрэбна асаблівая пільнасць у тым, каб добра, культурна пісаць на беларускай мове.

Рэчавыя ўзнагароды атрымалі: Аўрора, Мікалай Панфілюк, Андрэй Гаўрылюк, Пятро Байко, Мікалай Варанецкі, Дзед Кастусь. Яны вельмі шмат пішуць, яны проста як пазаштатныя журналісты.

**Аляксандр Анташэвіч**
Фота А. Хоміча



Тое, як сапраўды ёсць, то мы ведаем. Аднак, што рабіць дзеля будучыні, ад якой не ўцячэш і не затрымаеш яе, а пра якую заўсёды найменш вядома?..



 

## БЕЛАРУСІКІ

**1984**

Kupała J., Z głybiń narodnych, Mińsk 1982, Rec. Poźniak Telesfor, *Slavia Orientalis*, 1984, nr 2, s. 248—251:

Kupała Janka, Poezje wybrane, Warszawa 1984, Rec. Ryszkowski Janusz, *Tygodnik Kulturalny*, 1984, nr 43, s. 12.

Łobanek Uładzimir, Drugi front radzieckich partyzantów. W 40 rocznicę wyzwolenia Białoruskiej SRR. Rozm. przepr. A. Stuk. Tł. z ros. *Za Wolność i Lud*, 1984, nr 27 s. 5—6, il.

Łojewski Piotr, Naumiak W., Moja chata z kraju, *Tu i Teraz*, 1984, nr 6, s. 13

Mińsk, Moskwa, Leningrad. Refleksje o obejrzanych przedstawieniach. Oprac. Jerzy Niesiobędzki (inni). *Teatr*, 1984, nr 4, s. 26—29, il.

Narodnaja kultura i byt Biełarusau, Mińsk 1982. Rec. Sielicki Franciszek, *Lud*, t. 68, 1984, s. 285—288.

Rawski Tadeusz, Bitwa białoruska. *Polityka*, 1984, nr 25, s. 14, il.

Rieger Janusz, Białoruskie nazwy miesięcy w zapisie z początku XVI w., *Acta Baltico-Slavica*, t. 16, 1984, s. 219—220.

Reperowicz Stanisław, Egzamin bojowy nad Turią i Bugiem. (1 Front Białoruski). *Trybuna Ludu*, 1984, nr 169, s. 5.

Saltuk Aleh, W ojczyźnie mojej (w), Już z kłosami nie przyjaźnią się sierpy (w), Pamięci Eudakii Łoś (w). Tł. z białor. Bronisław Suzanowicz, *Nadodrze*, 1984, nr 17, s. 8.

Sielicki Franciszek, Anegdoty o chłopach w byłym powiecie wilejskim, *Slavia Orientalis*, 1984, nr 3/4, s. 513—517.

Siergaczew Siergiej, Korczmy Biełorussii XVII—XIX w., *Materiały Muzeum Budownictwa Ludowego w Sanoku*, 1984, nr 28, s. 36—46, il. rys.

Skibińska Zofia, „Pan Tadeusz" Bronisława Taraszkiewicza na tle innych przekładów białoruskich, *Poezja*, 1984, nr 11/12, s. 162—165, il.

Smułkowa Elżbieta, Frekwencja tekstowa białoruskich typów akcentacyjnych rzeczowników (na podstawie próbek tekstów gwarowych z okolicy Witebska i Sokółki), *Acta Baltico-Slavica*, t. 16, 1984, s. 263—277, tabl.

Tank Maksim. Już biało ściele się gryka (w), Kiedy się dowiesz, że umarłem (w). Tł. z białor. Tadeusz Karbowicz, *Kamena*, 1984, nr 23, s. 7.

Toczewski Andrzej, Zdobycie przez wojska 1 Frontu Białoruskiego przyczółków odrzańskich w 1945 r., *Rocznik Lubuski*, R. 13, 1984, s. 231—258.

Tomaszewski Jerzy Mity i fakty. (Kresy wschodnie), Rozm. przepr. Piotr Łuczka, *Nurt*, 1984, nr 5, s. 8—11.

Turkowski Lucjan, Tkactwo ludowe a rzemiosło tkackie w Wieleńskiem i Nowogródzkiem, Oprac. Jan M. Pałka, *Rocznik Muzeum Narodowego Rolnictwa w Szreniawie.*

Turonek Jerzy, Statut Białorusi w Komisariacie Rzeszy, Ostland, *Studia z Dziejów ZSRR i Europy Środkowej*, t. 20, 1984, s. 165—185, tab.

Wójtowicz Marian, O interpretacji niektórych staroruskich nazw osobowych, *Slavia Orientalis*, 1984, nr 3/4. s. 571-576.

Współczesna poezja białoruska, Oprac. Włodzimierz B(atton)-Segal, *Barwy*, 1984, nr 11, s. 9.

**P.C.**

### ЗАПРАШАЕМ

на беларускі фэст, які адбудзецца ў нядзелю 5 ліпеня г.г. у Беластоцкім амфітэатры пры вул. Каліноўскага. Пачатак а 14-й гадзіне. З багатай праграмай абяцаюць выступіць калектывы з Беластока, Гайнаўкі і Гарадка. Можна будзе паслухаць маладых спевакоў — лаўрэатаў конкурсу „Беларуская песня-81" для школьнай моладзі.

Беластоцкі аддзел БГКТ

## З рэпарцёрскіх запісак




Чорная-Беластоцкая з невялікай лясной вёсачкі, закінутай у гушчары Кнышынскай пушчы, разраслася да памераў горада. 7 ліпеня 1962 года Рада Дзяржавы прыняла пастанову, каб дагэтуляшні пасёлак, — а яшчэ даўней Чорную Вёску — перайменаваць на Чорную-Беластоцкую і адначасова замацаваць за ёю ўсе гарадскія правы і абавязкі. Таму горад у гэтым годзе святкуе сваё „сярэбранае вяселле". У ролі „маладой", бясспрэчна, выступіць начальнік управы горада і гміны Чорная-Беластоцкая, магістр Барбара Бучынская. Маладым будзе I сакратар Гмінна-Гарадскога камітэта ПАРП у Чорнай-Беластоцкай Юзаф Сількоўскі.

— Што цяпер уяўляе сабою Чорная-Беластоцкая? — звярнуўся я да начальніка.

У цеснаватым яе кабінеце, за рабочым сталом, сядзела маладая жанчына, радавітая чарнянка. І я падумаў: вось і адказ на маё пытанне. Гэтая жанчына, пра ўзрост якой я не адважыўся запытаць, нарадзілася і вырасла ўжо ва ўмовах народнай улады, у 1973 годзе закончыла вышэйшую школу, стала магістрам права і адміністрацыі і распачала працу ў гэтай жа чорнабеластоцкай управе, а ў 1982 годзе даверылі ёй абавязкі начальніка.



Памяталі ў Чорнай-Беластоцкай і аб тых, хто загінуў за нашу свабоду. Пані начальнік, аднак, наракае, што з надпісу на гэтым помніку надта ж часта гінуць паасобныя металічныя літары. Зараз не хапае „Л" у слове „палеглым". І каму, дзеля чаго яны патрэбныя?

Пазней, калі мы разгаварыліся, я даведаўся, што паходзіць яна са старэйшага тутэйшага роду Максімюкоў, які яшчэ ў царскія часы пасяліўся ў раёне цяперашняй Чорнай-Беластоцкай, які і да сёння старэйшыя людзі яшчэ называюць Вадакачкай.

— Што ж вам сказаць? — задумалася пані начальнік. — Я тут ведаю кожны куточак, хаця наш горад займае больш за 14 квадратных кіламетраў. Уявіце сабе: прыкладна 7 кіламетраў уздоўж і 2 кіламетры ўпоперак.

Мне не трэба было нічога сабе ўяўляць, бо я ўжо некалькі разоў з'ездзіў Чорную-Беластоцкую ўздоўж і ўпоперак. Сапраўды, каб дабрацца з фабрыкі сельскагаспадарчых машын „Аграмет" у цэнтр горада, або з пасёлка Зялёнае, дзе зараз канцэнтруецца ў Чорнай-Беластоцкай прыватнае будаўніцтва, пасёлак ЗОР, дзе расселіся тыпова гарадскія, шматпавярховыя жылыя карпусы, трэба наматаць нямала кіламетраў. Цяпер я разумею, для чаго служаць тут прыватныя таксоўкі, якія чакаюць сваіх пасажыраў непадалёк ад чыгуначнай станцыі і аўтобуснага прыпынку, адным словам, там, дзе ў Чорнай-Беластоцкай пачынаецца вуліца Маршалкоўская. Проста, як у Варшаве, хаця ад розных „маршалкаў" выводзяцца гэтыя назвы...

— Зараз пражывае ў нашым горадзе амаль 9 тысяч чалавек, — сцвярджае пані начальнік.



Пронаўскі актыў у час гаспадарскага візіту свайго горада. Тут яны над залівам, пабудаваным у рамках грамадскага пачыну. Цяпер гэта ўлюбёнае месца адпачынку не толькі жыхароў Чорнай, але і Беластока.

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Зіма ў 1377 годзе выдалася, мабыць, марозная і бясснежная. Яшчэ перад Калядамі так укавала рэкі ды багны, што куды ні глянь — каціся па гладзі ды роўнядзі. Моцна насцярожыла гэта старога Кейстута і яго ваяводаў, бо найчасцей у такія зімы, „па чорнай стопе", крыжакі ўрываліся ў Вялікае княства. Іхнія, укрытыя цяжкой зброяй-бранёй коні-аграмадзіны з закаванымі ў сталь ездакамі, патрабавалі якраз цвёрдай ды гладкай дарогі. Затое самымі пэўнымі саюзнікамі нашых продкаў былі непраходная дрыгва, багністыя ручаі і рэчкі, балоцістыя лясы. Калі гэтай аховы не ставала, яны адчувалі сябе няўпэўнена. Таму яшчэ больш зырка сачылі за кожным рухам у крыжацкім пагранiччы. Кейстутавы рыскуны-разведчыкі, глядзелі ва ўсе вочы ўзмоцненыя гарнізоны прыгранічных крэпасцяў, напагатове было воінства ў глыбі краю. І ўсё ж не зведалі, не дагледзеліся ды не засцерагліся. Крыжакі перахітрылі абаронцаў. Звычайна яны невялікімі атрадамі нападалі ў адным месцы, каб сцягнуць туды асноўныя сілы Кейстута, а калі тое ўдалося, тады ўдаралі асноўнымі сваімі сіламі ў цалкам іншым напрамку. Але ў тую зіму было інакш.

Першымі надыходзячых крыжакоў заўважылі паляўнічыя, што на бяскрайніх багнах Лаўкі

### БЕЛЬСКАЯ АБАРОНА

ў міжрэччы Бобры (Бебжы) і Нарвы выкурвалі гарнастаяў ды душылі выдраў. Звочыўшы незлічоныя крыжацкія загоны, кінуліся адны ў бок Тыкоціна, другія — у Гонязь. Зведаўшы пра з'яўленне крыжакоў у гэтых ваколіцах і накіраваўшы супраць іх нязначныя сілы суражскага ды бранскага рыцарства, Кейстут пачаў збіраць асноўныя свае сілы ў ваколіцы Горадні, будучы ўпэўненым, што вораг ударыць на гэты горад, бо ўжо паўстагоддзя крыжакі не атакавалі яго. І праўда, крыжацкі атрад паявіўся на бродзе на рацэ Нэце, між азёрамі Нэцка і Сайна, але гэта быў зман.

Асноўныя крыжацкія сілы на чале з магістрам Вінрыхам фон Кніпродэ, быццам пылінку, здзьмухнулі са свае дарогі атрады суражан ды бранчан і пайшлі ў кірунку Бельска. Ледзь віднела, калі крыжакі акружылі горад і ўварваліся, разбіўшы брамы, на яго вузенькія, машчоныя колатым бярвеннем вулачкі. Аднак частка насцярожаных бяльчан паспела ўскочыць з горада ў крэпасць і разам з гарнізонам зачыніцца ў ёй. І калі перадавы крыжацкі атрад памкнуўся да ўезду ў яе, застаў падняты мост, зачыненую браму, а са сцен на яго дажджом пасыпаліся стрэлы ды каменне. Крыжакі, узлаваныя тым, што ім не ўдалося знячэўку захапіць крэпасць, раз'юшана накінуліся на горад. Разлеглы, людны і заможны Бельск стаяў перад імі адкрыты, а ў ім было чым пажывіцца.

Конныя рыцары і пешыя кнехты перш за ўсё ганяліся



Навейшая пабудова ў Чорнай-Беластоцкай. Айцец Ян Федарчук патрапіў мабілізаваць невялікую тутэйшую праваслаўную абшчыну да вялікай ахвярнасці, у выніку чаго на ўзгорку, ля шашы з Беластока ў Саколку, паявілася гэтая прыгожая царкоўка.



Пасёлак Зялёнае. На месцы колішняй Вадакачкі цяпер вырастае калонія індывідуальных домікаў. Тут калісьці нараджалася Чорная Вёска.

Каб папоўніць гэтую інфармацыю, я заглянуў у статыстычны даведнік за мінулы год. Аказваецца, што паказчыкі па натуральнаму прыросту насельніцтва для Чорнай-Беластоцкай даволі вялікія, яны перавышаюць 12 праміляў. Магчыма, гэта таму, што тут ёсць каму радзіць дзяцей. У 1986 годзе пастаянна пражывае ў Чорнай-Беластоцкай на 300 з лішкам жанчын больш чым мужчын. Так напісана ў статыстычным даведніку, які таксама інфармуе, што ў гэтым горадзе ў 1986 годзе нарадзілася аж 177 новых грамадзян, большасці з іх патрэбна месца найперш у яслях, а затым у прадшколлях і ў школах.

У Чорнай-Беластоцкай памятаюць пра гэта, у чым пераканаўся я, трапіўшы якраз на чарговае пасяджэнне Гмінна-Гарадской рады Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння. Сабраўся на ёй прадстаўнічы калектыў, які ў Чорнай-Беластоцкай вызначае рытм грамадска-эканамічнага і культурнага жыцця. Разглядалі яны ў асноўным дзве справы, зараз найважнейшыя для горада: інвестыцыі у рамках нацыянальнага пачыну па дапамозе школам ды асноўныя праблемы горада і гміны. У рамках грамадскага пачыну зараз ідуць тут дзве вельмі каштоўныя будоўлі: будуецца прадшколле ў Чорнай-Беластоцкай і аграмадная школа ў суседняй Чорнай Вёсцы Касцельнай. Пронаўскі актыў пабываў з візітам на гэтых будоўлях, каб гаспадарскім вокам панаглядаць за ходам спраў. Яны, гэтыя справы, дзякуючы вялікай ахвярнасці людзей, ладзяцца тут зусім нядрэнна, праца ідзе згодна з вызначаным планам, але не без клопатаў. У першую чаргу не хапае будаўнічых матэрыялаў, замала грамадскіх грошай. Асабліва маладыя людзі пазбягаюць працы ў грамадскім пачыне, хаця прадшколле, для прыкладу, будуецца з думкай перш за ўсё пра іх, гэтых маладых людзей, пра іх жыццёвыя патрэбы.

— Бачылі вы, як у нас горад раскапаны? — пытае ў мяне пані начальнік, хаця адказ мой ведае наперад, бо цяжка не заўважыць, што галоўныя вуліцы ў Чорнай-Беластоцкай перарыты, быццам пасля стыхійнай катастрофы. — У нас кажуць, — дабаўляе яна з усмешкай, — што толькі баба-начальнік магла да нечага такога дапусціць. А тут інакш нельга. Нягледзячы на свой 25-гадовы юбілей, у Чорнай-Беластоцкай усё яшчэ не закончыўся працэс пераўтварэння вёскі ў горад. А горад пачынаецца ў зямлі, пад паверхняй вуліц, дзе закапаны ўсе каналізацыйныя і іншыя магістралі. Вось мы і рашылі да 1990 года завяршыць у нашым горадзе асноўную падземную інфраструктуру, якая дазволіць нам прыступіць да высокага жыллёвага будаўніцтва. Без земляных раскопак, на жаль, гэтага зрабіць нельга. Дык людзі наракаюць на ўпартасць бабы-начальніка, але і пераносяць са зразуменнем гэтыя невыгоды...



Рост Чорнай-Беластоцкай нераздзельны з ростам фабрыкі „Аграмет". У гэтых „блёках" у асноўным жывуць сем'і рабочых гэтай фабрыкі. Пасёлак так і называецца ЗОР: Зажонд оседлі роботнічых.

У рамках шасцігадовага плана было пастаноўлена пабудаваць у лесе між Беластокам і Саколкаю цяперашнюю фабрыку сельскагаспадарчых машын „Аграмет". У 1956 годзе рушыла вытворчасць. Ад таго ж часу звязаў свой лёс з Чорнай-Беластоцкай Тадэуш Кубіт — цяперашні дырэктар па эканамічных справах гэтай фабрыкі.

— Цяпер наш „Аграмет", — заяўляе дырэктар, — займае ў Беластоцкім ваяводстве пятае месца па велічыні вытворчасці.

Ён і надалей складае асноўны эканамічна-грамадскі фундамент для развіцця Чорнай-Беластоцкай. Дзякуючы гэтаму прадпрыемству горад, якога не было яшчэ 25 гадоў таму назад, цвёрда закараніўся ў колішняй пушчы.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

за людзьмі: мужчын і юнакоў выбівалі на месцы, бралі ў няволю дзяўчат ды маладзіц з малымі дзецьмі, вязалі і вывалакалі за горад. Іншыя шнарылі па хатах, забіраючы ўсё каштоўнае. З асаблівай заядласцю ўзломвалі купецкія дамы і склады, у царкве перахапалі літургічнае начынне, з іконаў і богаслужэбных кніг абдзіралі сярэбраныя аклады, рамы, вокладкі. А калі надвечар горад быў цалкам ачышчаны з насельніцтва і дабра, сам вялікі магістр загадаў з усіх бакоў падпаліць яго, каб асвятліць здабыванне крэпасці.

А крэпасць трымалася, хоць з самага ранку біла ў яе сцены каменнымі кулямі некалькі гармат, дажджом сыпаліся з арбалетаў запальныя стрэлы на драўляныя будынкі, кнехты некалькі разоў ішлі на яе прыступам. Бяльчане адчайна адбіваліся — добра бачылі і чулі з крапасных сцен, што робіцца ў горадзе і што іх чакае, калі не здолеюць абараніцца. Гінулі ад куляў, але не дапусцілі да пажару ў крэпасці, часта голымі рукамі ды ўласным целам тушылі палаючыя стрэлы з серкі. Да апошняй кроплі вычэрпвалі калодзежы і лілі перш за ўсё на сцены: вада ўмомант на сценах высокага валу замярзала і па іх немагчыма было ўскарабкацца ў крэпасць. Ускатвалі на сцены каменне і бярвёны, каб спусціць на атакуючых. Выбітыя гарматнымі кулямі праломы ў сценах завальвалі бярвеннем ды... целамі загінуўшых сваіх сяброў. А забітых і параненых абаронцаў усё прыбывала, здавалася, што хутка не будзе каму заступаць упаўшых з забаролаў.

І хто ведае, ці ад згубы не выратавала тады стойкіх абаронцаў адна трапна выпушчаная страла невядомым бельскім воем. Дасягнула яна самага выдатнага госця ордэна — вядомага авантурыста і прайдзісвета, будучага англійскага караля Рышарда II. На самай справе дзеля гэтага выдатнага госця, каб даць яму нагоду праславіцца баявымі доблесцямі ў змаганні супраць „паганцаў і схізматыкаў", і была наладжана гэтая „райза" на Бельск. Хоць рана была не цяжкая, можна сказаць — драпінка ўсяго, але ж закранула якраз такое месца на твары каралеўскага наследніка, з якога кроў струменнем цякла і не сунімалася, нягледзячы на ўсе намаганні медыкаў. Што ж, каралеўскі нашчадак любіў заглядаць у чарку, якой велічыні яна не была б, і за каўнер не выліваў, таму і ціск крыві быў у яго высокі і не хацела яна згортвацца і ўтаймоўвацца. І магістр фон Кніпродэ, зважыўшы, што справа можа блага скончыцца для славы ордэна ў Еўропе, вырашыў зняць аблогу бельскай крэпасці ды як мага хутчэй вяртацца з параненым каралевічам у Мальбарк.

Сцюдзёную ноч крыжакі скаратalі пры дагараючым Бельску, дапальваючы тое, што ў ім яшчэ ўцалела, ды пільна сочачы, каб абаронцы крэпасці часам не ўдарылі па іх. Але там не было ўжо каму кідацца ў такі самабойчы выпад. І раніцай, як толькі заружавеўся ўсход ды сталі расплывацца моракі, крыжакі, падабраўшы сваіх раненых і забітых ды перадам пагнаўшы натоўп палонных і заладаваныя нарабаваным дабром вазы, павалакліся старым шляхам на Сураж, Візну і далей у Прусію.

Кейстут са сваімі воямі з Горадні прыгнаўся ў Бельск толькі трэцяга дня. На застылым папялішчы снавалі нешматлікія ўцалелыя абаронцы крэпасці. Жанчыны лямантавалі, мужчыны панура выграбалі з вугалля і попелу косці родзічаў, суседзяў, знаёмых, дзяўблі ў скаванай марозам зямлі ямкі і ссыпалі ў іх астанкі тых, з якімі яшчэ два дні таму назад жылі, працавалі, жартавалі.

Бельскія воі, што прыімчаліся папярод Кейстута ў сваю родную мясціну, дамагаліся ад яго зараз жа ладзіць Пагоню за крыжакамі. Але той, дакладна выведаўшы ад абаронцаў крэпасці пра крыжацкую сілу, з паходам не спяшаўся і бяльчан, якія рваліся адбіваць сваіх родзічаў з няволі, таксама не пусціў на пэўную смерць. Загадаў усім сваім воям зараз жа заняцца адбудовай і ўзмацненнем крэпасці. Сам жа падаўся ў Дарагічын, Мельнік, Камянец, Нарву і іншыя навакольныя гарады, каб наладзіць перасяленне людзей на свежае бельскае папялішча дзеля ўваскрашэння знішчожанага горада.

**Мікола Гайдук**

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ПАВОДЗІНЫ ПРЫ НЯБОЖЧЫКУ

Вельмі часта старэйшыя жыхары ўсходняй Беласточчыны, молячыся пры памёршым, бачаць у ім пасланца на той свет. Такая трактоўка праяўляецца ў просьбах перадаць раней памёршым прывітанне або паінфармаваць іх аб тым, што ў іх сем'ях усё ў парадку. Цікава, што ў такіх просьбах няма наогул інфармацый непрыемных. Матывуецца гэта тым, што памёршым было б прыкра, калі б яны даведаліся, што ў іх сем'ях дзеецца нешта нядобрае, тады калі прыемныя весткі прыносяць ім асалоду.

Пасля смерці чалавека ў хаце прыкрываюць цёмнымі тканінамі люстэркі і ўсе бліскучыя прадметы, а таксама затрымліваюць гадзіннік. Найстарэйшыя жыхары тлумачаць гэта тым, што люстэркі і ўсякага роду блёсткі — гэта вынаходства д'ябла. А што датычыцца гадзіннікаў, дык лічаць яны, што калі б іх не затрымаць, дык у данай мясцовасці памерла б столькі людзей, колькі гадзін ішоў бы гадзіннік у часе знаходжання нябожчыка дома. У некаторых вёсках існавала перакананне, што, выходзячы з хаты, у якой знаходзіцца нябожчык, трэба абавязкова пацерціся плячом аб вушак. Дзякуючы гэтаму абтрасем з сябе смерць і не прынясем яе ў свой дом. Амаль ва ўсёй усходняй Беласточчыне выступае забарона мыцця цела нябожчыка маладым жанчынам. Удзел у мыцці нябожчыка мог бы выклікаць у іх бяздзетнасць.

Сярод беларусаў з Беласточчыны выступае перакананне аб шкоднасці вады, якой мылі нябожчыка. Такое меркаванне выступала, зрэшты, у многіх народаў свету.

„Wedle wyobrażeń starożytnych, — піша Г. Бегелейзен, — zwłaszcza Babilończyków jest woda użyta do obrzędowego oczyszczania (przy urodzeniu, śmierci itp.) szkodliwa i kto przejdzie nieopatrznie przez miejsce, gdzie taka woda wylana, staje się również nieczystym. Na obu półkulach zachował się zwyczaj mycia ciała zmarłych z brudów fizycznych i duchowych — złe duchy nazywają się „nieczystymi" — i zwyczaj wylewania tych nieczystości w miejsca, gdzie nikt nie zachodzi — aby człowiek albo zwierzę przechodząc tamtędy nie nabawili się od tego choroby, a nawet wystrzegają się drzewo podlać tą brudną wodą, bo od niej usycha. Z tego względu podczas mycia zwłok i później przestrzegają różnych ostrożności z obawy przed złym wpływem umarłego i nieczystych sił."

Па сутнасці па ўсёй усходняй Беласточчыне ваду, якой мылі нябожчыка, старанна забіраюць у тое месца, дзе не ходзяць ні людзі, ні жывёла. Найчасцей выліваюць яе ў тым месцы, дзе зыходзяцца тры платы. Многія вераць, што чалавек, які прайшоў бы па такім месцы, прынёс бы ў хату смерць. У мінулым у вёсцы Катлы частку такой вады налівалі ў бутэлькі і прымянялі для нішчэння прусакоў і ліквідавання барадавак.

Зусім іншы звычай сустракаем мы ў вёсцы Рэпіскі, дзе такую ваду вылівалі пад садовыя дрэвы, верачы, што яна заб'е ўсякага тыпу чарвей і дапаможа расці добра і пладаносіць дрэвам.

Абавязвае акрэсленая норма таксама ў абыходжанні са свечкай, якую трымаў у руках паміраючы чалавек. У большасці выпадкаў такую свечку закопвалі ў зямлю. У некаторых вёсках асобы, якія займаліся каражбой, стараліся здабыць недапалак такой свечкі, каб выкарыстоўваць яе ў сваіх магічных практыках.

У вёсцы Катлы васковыя ацёкі са свечкі нябожчыка выкарыстоўваліся пры праявах сямейнай няվернасці. Здраджаныя жанчыны ацёкі гэтыя кідалі ў ежу сваім няверным мужам і былі перакананы, што, спажыўшы іх, мужы стануцца вернымі, добрымі.

З прыведзеных прыкладаў вынікае аднязначна, што пахавальная абраднасць беларусаў была выключна багатая і каларытная.

**А. Баршчэўскі**

(Працяг са стар. 3)

## РОСКВІТ І ЎПАДАК БЯДОЦІКА

першай адчула дзіўную, пакуль што незразумелую ёй самоту. Усё роўна што вяртаючыся з непраўдападобна доўгага, гадамі музыканячага карнавала.

Нечакана прыехаўшы дамоў з паказухі ў варшаўскім міністэрстве, яна ўгледзела разаспаную шаснастоўку з Маркам у пасцелі. Раней Рэна, сапраўды, паводзіла сябе, бы дама, якой такая сітуацыя не можа быць найважнай. Цяпер жа хоць і сама не лепшая, накінулася на дзяўчыне з імпэтам мужычкі, а Марк, паказаўшы сябе патомным хамутом, уцёк.

Рэна Выдрыцкая развялася з Маркам Бядоцікам.

Маёмасць суд прысудзіў па палове, прызнаючы за ёю кватэру.

Ён пайшоў з добрай работы, новай не падшукаў сабе, звязаўся з прастытуткамі і спаліла яго гарэлка.

А яна дажыла да глыбокай старасці.

**Сакрат Яновіч**

## З СУДА

Казімір Яцкоўскі працаваў шафёрам на транспартным прадпрыемстве ўнутранага гандлю. Пастаўляў у беластоцкія крамы розныя тавары, найчасцей гарэлку. Кожны дзень цераз яго рукі праходзіла маёмасць мільённай вартасці. К. Яцкоўскі рашыў прыдбаць штосьці з гэтага багацця і для сябе. Прыдумаў, як яму здалося, геніяльны план.

Вядома ўсім, што лепш у нас аплоціцца купляць гарэлку за валюту ў крамах „Пэвэкс", яна там крыху таннейшая, нават, калі долары ці „боны" купіць на „чорным" рынку, ад „конікаў", што, заўважу, забаронена і з'яўляецца злачынствам. Такой дробяззю, аднак, пан Яцкоўскі не турбаваўся, бо план яго выдаўся яму просты і вельмі ж заманлівы. Не спадзяваўся ён, што хто-колечы яго выявіць.

Грузілі на яго машыну скрынкі з гарэлкай, якую абавязаны ён быў завезці ў адну з крамаў „Пэвэксу". Шафёр, аднак, накіроўваўся ў звычайную краму спулдзельчай сеткі „Сполэм". Загадчыца гэтай крамы ахвотна прымала дадатковы хадлівы тавар без ніякіх дакументаў, плаціла за яго па актуальнай дзяржаўнай цане, адлічыўшы, вядома, сабе і свайму намесніку адпаведную долю, а шафёр накіроўваўся тады ў „пэвэксоўскую" валютную краму, але ўжо без гарэлкі, з адной толькі „фактурай" і адпаведнай сумай „бонаў". Тут таксама не абышлося без „падмазання", бо ж ніхто дарэмна не захоча рызыкаваць, але колер зялёных паперак з'яўляецца ў нас настолькі прывабным, што многія за ім света не бачаць. Казімір Яцкоўскі сваю злачынную дзейнасць праводзіў на працягу трох месяцаў: ад снежня 1985 г. да канца сакавіка 1986 г.

Фінал гэтага хітрага спекуляцыйнага махлярства разыграўся ў раённым судзе ў Беластоку. Галоўнаму абвінавачанаму, Казіміру Яцкоўскаму, прысудзілі два гады турмы і тры мільёны штрафу. Усе іншыя саўдзельнікі гэтага злачынства атрымалі прыгаворы да аднаго года зняволення і таксама па тры мільёны злотых штрафу кожны.

**Судамір Параграфчык**

## СОННІК

79

**Пагада** (будыйскі храм) — пакарыстайся сваім добрым палажэннем.

**Пагода** прыгожая — новае сяброўства.

**Пагоня** — шчасце.

**Пагорак** — недалёкае падарожжа.

**Пагроза** — паступіш несправядліва; непаразуменне.

**Падагра** (хвароба) — незадаволенасць.

**Падарожжа** навуковае — радасць; што ўжо адбылося — даўно не бачаныя сябры; пешшу — важная справа; возам, машынай — сталае шчасце; у кампаніі — плёткі.

**Падарунак** — цябе абкрадуць; атрымаць — паляпшэнне адносін.

**Падаткі** — малая ахвяра.

**Падаць** і ўставаць — неспадзяванае прызнанне і пашана; упасці і не падняцца — ганьба; падаць з чаго-небудзь — асцярожнасць не пашкодзіць.

**Падворак** — спадчына.

**Падвязка** — шчасце ў каханні.

**Падвячорак** — непатрэбны выдатак.

**Падзямеллі** — надарэмна намагаешся раскрыць таямніцу.

**Падковы** — шчасце, удачы; падкоўваць каня — блізкае падарожжа.

**Падла** — непрыемныя звесткі.

**Падлога** — заўчасная страта каханай асобы.

**Падножка**, маленечкая лавачка — добрыя дзеці, выгаднае жыццё.

**Паднябенне** — спакусы фальшывага сябры.

**Падпальшчык** — сцеражыся агню.

**Падстрэшша** — пазбяжыш турбот.

**Падушка** — часовае недамаганне; купляць — выхад з нястачаў.

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Udzielając odpowiedzi na notatkę prasową zamieszczoną w tygodniku ZG BTSK „Niwa" z dnia 3.05.1987 r. pt. „Kradzie i nie czyrwanieje" dot. ordynarnego zachowania się kierowców autobusów PKS oraz pobierania opłat za przejazd i nie wydania biletów na trasie Siemianówka—Narewka w dniu 16.03.1987 r., Oddział I KPKS w Białymstoku wyjaśnia co następuje.

Z dotychczas otrzymywanych skarg od podróżnych z okolic Narewki, Siemianówki nie wynikało, aby kierowcy obsługujący tamte trasy do podróżnych odnosili się ordynarnie. W większości trasy te obsługiwane są przez tych samych kierowców, którzy pochodzą z tamtych okolic. Mowa i obyczaje tamtejszej ludności są im znane. Dlatego też nie powinny występować przypadki obrzucania epitetami podróżnych obrażającymi godność i poczucie narodowe ludności tej okolicy. Jeśliby opisane przypadki w notatce wystąpiły w przyszłości, to podróżni bez względu na to z jakich okolic pochodzą powinni podać dokładną datę, godzinę i trasę przejazdu, co pozwoli nam na wyciągnięcie konsekwencji służbowych tak za ordynarne odnoszenie się do podróżnych jak i za pobieranie należności za przejazd i nie wydawanie biletów.

Zamieszczona informacja w notatce o pobieraniu opłat za przejazd i nie wydanie biletów nie daje nam podstawy do zastosowania kary wynikającej z naruszenia przepisów prawa karnego lub karno-administracyjnego.

Sprawy poruszone w notatce zostaną omówione na najbliższej naradzie ze wszystkimi kierowcami naszego Oddziału.

I-szy z-ca dyrektora
Oddziału KPKS w Białymstoku
mgr Eugeniusz Kisielewski

Гадавое спажыванне рыбы на душу насельніцтва складае ў сярэднім 12 кілаграмаў. Рыба дае чалавецтву каля 17 працэнтаў жывёльнага бялку.

Абсалютнае першынство тут трымае Японія: 69 кілаграмаў у год на душу насельніцтва, 55 працэнтаў жывёльнага бялку за кошт рыбы. На апошнім месцы, як ні дзіўна, таксама марская дзяржава — Пакістан: 2 кілаграмы і 4 працэнты.

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Увесь творчы сямейны калектыў „Паўлінкі“ з Рыбалаў. Злева: Тамара Андрэюк, Лідзія Смалеўская — рэжысёр, Пётр Трафімюк, Ліля Яблонская — Паўлінка, Галіна Дзмітрук Пётр Тамашук, Андрэй Якашок, Ірэна Філіпюк, Юра Федарук, Мірaслаў Андрэюк, Раман Грыгарук. (Арт. чытай на стар. 10).

## КАЗКА ПРА ЦУД-МАСТАКА І БЛАКІТНУЮ ВЕЖУ

**(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары)**

А потым, як засмяяўся, ажно з трона каралеўскага саскочыў! Падбег да ганца, абняў яго, закрычаў радасна:

— Малайчына! З добраю весткай да мяне прыйшоў!..

І ў тое ж імгненне склікаў кароль да сябе ўсіх сваіх міністраў і расказаў ім пра мастака і яго паветраны малюнак, і яшчэ такія словы сказаў кароль:

— Калі змог мастак намаляваць у паветры клён, і вішнёвы садок, і катка-мурлыку, і нават маці сваю... Значыцца, ён зможа намаляваць у паветры і цэлае войска... Тады ніякі суседні кароль нам не страшны... Як убачаць ворагі, якая сіла ідзе на іх, якая моц, дык адразу наўцёкі кінуцца з поля бітвы!.. — і закрычаў кароль: — Загадваю! Каб праз дзесяць дзён і дзесяць начэй мастак быў дастаўлены ў мой каралеўскі палац!..

Так яно і здарылася... На адзінаццаты дзень стаяў мастак перад каралём і слухаў яго загад:

— Заўтра на Сымонавым полі пачнецца бітва... Маё войска сустрэнецца з войскам суседняга караля!.. Таму загадваю табе, нявольніку Блакітнай вежы, намаляваць перад маім войскам яшчэ адно войска, ды такое вялікае, каб вораг, пабачыўшы яго, адразу кінуўся наўцёкі!

— Але ж я не змагу гэтага зрабіць! — сказаў мастак каралю, ды кароль нават і не слухаў яго. Ён і загадаў стражнікам на тры замкі закрыць мастака, а назаўтра на самым досвітку вывесці яго на Сымонава поле і паставіць перад каралеўскім войскам. І ледзь толькі развіднела, як стражнікі адамкнулі ўсе тры замкі і павялі мастака на Сымонава поле, і загадалі хутчэй маляваць у паветры войска. Паглядзеў мастак перад сабою, бачыць: на ўзгорку варожае войска стаіць, чуе: трубы звіняць, а воі ў бой просяцца...

Азірнуўся мастак назад, бачыць каралеўскае войска, і, можа, у гэтым войску яго браты ці суседзі стаяць... Зашчымела сэрца ў мастака, глядзіць ён на каралеўскіх вояў — і што ні твар, то ўсё нібыта знаёмы вельмі... А калі паглядзеў па баках, дык увогуле стала горка мастаку, аж зайшлося сэрца... Трава наўкола шуміць, сонца толькі-толькі ўзнімаецца, жыта непадалёку, здаецца на вачах падрастае, і быццам нават перапёлка крычыць у ім...

І павеяла на мастака такім блізкім, такім родным, што ўміг уявілася яму тое даўняе, далёкае, калі пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд...

І о дзіва!.. Ажно сам мастак падзівіўся, так блізенька затрапятала ў паветры вішнёвая га-

(Працяг на стар. 10)

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* ✲ *

БССР, 222040, Мінская вобл., Крупскі р-н, ст. Бобр, вул. Пуцявая, д. 12, Хіравец Наташа, 8 кл.

* ✲ *

БССР, 225654, Брэсцкая вобл., Лунінецкі р-н, в. Бостынь, Цельпук Ірына.

* ✲ *

БССР, 231430, Гродзенская вобл., г/п Карэлічы, вул. Звёздная д. 22, кв. 2, Дзіско Лена, 7 кл.

* ✲ *

БССР, 222380, Мінская вобл. г.п. Мядзель, вул. Гагарына, д. 22, Фарыно Іра.

* ✲ *

БССР, 223017, г. Мінск, пас. Гатава, вул. Металургічная д. 2, кв. 79, Захарэнка Аляксандр, 7 кл.

* ✲ *

БССР, 223017, г. Мінск, вул. Металургічная, д. 2, кв. 110, Манюк Уладзімір, 6 кл.

* ✲ *

БССР, 223017, г. Мінск, п/о Гатава, вул. Металургічная, д. 2, кв. 33, Кучык Света.

* ✲ *

БССР, 223017, г. Мінск, пас. Гатава, вул. Металургічная, д. 3, кв. 9. Неборская Наташа.

* ✲ *

БССР, 247760, Гомельская вобл., г. Мазыр, Бульвар Юнасці, д. 21а, кв. 34, Арцюшэнка Яўген, 7 кл.

* ✲ *

БССР, 222380, Мінская вобл., г.п. Мядзель, вул. Камсамольская, д. 1, кв. 3, Уліцкаму Уладзіміру.

* ✲ *

БССР, 222040, Мінская вобл., Крупскі р-н, ст. Бобр, вул. Завадская, д. 23, кв. 2, Талюка Марына.

* ✲ *

БССР, 213342, Магілёўская вобл., Быхаўскі р-н, в. Сялец, Перапечка Святлана, 7 кл.

* ✲ *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі р-н, Краснае, вул. Савецкая 4, Малец Таццяна.

* ✲ *

БССР, 222380, Мінская вобл., г. Мядзель, вул. 1 Мая, д. 57, кв. 19, Януць Іна.

## КАНІКУЛЫ, КАНІКУЛЫ!

### ВОСЬ І КАНІКУЛЫ

Для вас, дзеці, сонейка, птушкі, кветкі, рэчка, поле і лес.

Для вас ад „Зоркі“ самыя шчырыя пажаданні радасці, шчасця і добрага адпачынку. Але не забывайце памагаць і бацькам у працы. Ім самім цяжка, а ў вас такія маладыя сілы.

Не забудзьце пісаць „Зорцы“, як праводзіце канікулы і якія прыгоды ў вас бываюць.

Вясёлых, добрых канікулаў!




Ніна Галіноўская

### ЛЕТА

У сукенцы каляровай,  
У хусцінцы васільковай  
Ходзіць лета па палях,  
Па расквечаных лугах.  
Звоніць песняй жаўруковай,  
Кожны дзень званчэйшай,  
новай.  
Дбайна сонечнае лета  
Спеліць ягады для дзетак.  
Любіць з імі забаўляцца,  
Загараць, спяваць, купацца.  
Дораць дзеці лету ўсмешкі,  
Гульні, песні і пацешкі.  
А расчуленае лета  
Дорыць ім букеты кветак.



## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

### КОЗЛІК

Козлік, козлік, адыдзі,  
У цябе ёсць рожкі.  
Козлік, козлік, не глядзі,  
А сыдзі з дарожкі:  
Прапусці Марыначку  
І яе карзіначку,  
Калі ласка,  
Калі ласка!  
Козлік рожкамі страхнуў —  
Паказаў мне спінку,  
Козлік хутка ўбок звярнуў:  
Ты праходзь, Марынка,  
Ты такая добрая,  
Ты сказала роднае:  
„Калі ласка“.  
„Калі ласка!“

Рыма Алдоніна

(Пераклад з рускай мовы)





# БЕЛАРУСКІЯ ШКОЛЬНЫЯ ТЭАТРЫ



## У РЫБАЛАХ

Паважаная „Зорка". Адказваю на Вашу просьбу. На адвароце здымкаў я напісала (злева направа) прозвішчы і імёны артыстаў нашай школы, якія прынялі ўдзел у пастаноўцы ў гэтым годзе „Паўлінкі" і выступілі з ёю ў конкурсе школьных тэатраў.

Некалькі слоў аб сабе. Мая адукацыя — беларуская філалогія (СН-1964 год заканчэння). Вучу ў школе 28 гадоў. Вучыла ў Снежках, Целушках, Плюцічах, Пілінках і 21 год ужо ў Рыбалах, разам з мужам. Яшчэ будучы ў пачатковай школе прымала ўдзел у беларускіх сцэнках і любіла беларускую мову. Сама паходжу з вёскі Катлы, што каля Бельска. Выкладаю беларускую мову ва ўсіх класах ад II да VIII.

Амаль кожны год рыхтуем мы з вучнямі якуюсьці цікавую інсцэнізацыю, таксама беларускія песні і вершы на навагоднюю ёлку, цікавую і для вучняў нашай школы, і для асяроддзя, таму што на ёлку прыходзіць амаль цэлая вёска.

Заўсёды рабілі мы гэта ў школе, але апошнія некалькі гадоў робім у вясковай святліцы (якую людзі пабудавалі), тут больш месца для жыхароў не толькі адной вёскі, але і ўсіх блізкіх вёсак, адкуль давозяць дзяцей у школу ў Рыбалах.

Стараемся заўсёды падрыхтавацца добра, каб паказаць, што беларуская сцэнка, песня, беларуская мова з'яўляюцца для нас самымі прыгожымі, і тым заахвоціць як найбольш дзяцей вывучаць беларускую мову.

Мае вучні штогод прымаюць удзел не толькі ў тэатральным, але ў дэкламатарскім і песенным конкурсах. У гэтым годзе вучань V класа Адам Жарначук здабыў I узнагароду на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-87" у Бельску, а Юрка Федарук з пастаноўкі „Паўлінка" — узнагароду за найлепшую індывідуальную ролю.

З большых сцэнак ставілі мы ў сваёй школе такія: „Мікітаў лапаць", „Пярэстая красуля", „Боты", „Міхалка", „Прымакі", „Паўлінка" і шэраг іншых.

13 год я жыла ў школе са сваёй сям'ёй, а ўжо 8 год даязджаю з мужам у Рыбалы з Бельска. Зжылася я з гэтым асяроддзем і таму даязджаю. Трохі цяжкавата, але стараюся рабіць усё, як і даўней, калі была на месцы.

Пытаецеся, колькі дзяцей прайшло праз наш тэатр. Вельмі многа, так як я працую тут шмат год. І пакуль буду працаваць, буду старацца, каб заўсёды штосьці цікавае і карыснае з вучнямі рабіць.

Ніколі не люблю хваліцца, але калі вы ўжо напісалі і дапытваецеся, дык адказала. З самым сардэчным прывітаннем

**Лідзія Смалеўская**
**настаўніца школы ў Рыбалах**
**фота Валянціна Кандрацюка**



**Сцэна з камедыі „Паўлінка" ў выкананні Беларускага школьнага тэатра з Рыбалаў пад мастацкім кіраўніцтвам Лідзіі Смалеўскай. Злева: Тамара Андрэюк, Юра Федарук, Міраслаў Андрэюк.**

(Працяг са стар. 9)

## КАЗКА ПРА ЦУД-МАСТАКА І БЛАКІТНУЮ ВЕЖУ

лінка. Яму нават здалося, што пялёсткі ціхенька ападаюць на зямлю, а маці адклала свой посуд і паглядзела ў вочы яму, і далей, дзе стаялі вoі караля, і сярод іх, можа, былі яго браты ці суседзі... і кожны з вояў адчуў на сабе гэты позірк, і тады кожны яшчэ мацней узяўся за зброю...

Тут загрымелі трубы, пачалася вялікая бітва, і сам мастак кінуўся ў самую гушчу яе, і ўвесь час, пакуль ён біўся з ворагам, яму ўсё бачылася, як пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд...

У той бітве войска караля перамагло! Варожыя салдаты беглі хто куды наўцёкі, а сам кароль так узрадаваўся, што тут жа на Сымонавым полі аддаў загад сваім стражнікам адпусціць мастака на волю.

І пайшоў мастак за Сымонава поле, пайшоў дарогамі і лугамі туды, дзе яго чакала хаціна, дзе пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, і трошкі далей цвіў вішнёвы садок, а ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд...

**Раіса Баравікова**

* * *

— Я ўчора два разы дастаў ад бацькі папругай.
— За што? — пытаюцца сябры.
— Першы раз, калі я паказаў тату дзённічак. А другі раз, калі тата зразумеў, што гэта яго школьны дзённічак.

* * *

— Што б ты зрабіў, калі б табе далі пяць бульбін і сказалі падзяліць іх на шэсць чалавек?
— Зрабіў бы таўканіцу.

## Вясёлы куточак

* * *

— Адкуль ты нясеш столькі гразі на чаравіках? На дварэ ж сонейка, суха?
— Мама, трэба ведаць, дзе шукаць!

* * *

— Колькі каштуе гэты сабака?
— Тысячу злотых!
— А колькі палавіна?
— Аддайце! Я палавіны не прадаю!

* * *

Малы хлопчык пайшоў з татам у заалагічны сад. Там ён убачыў аленя і радасна закрычаў:
— Тата, тата, глядзі, гэты алень мае на галаве такую ж вешалку, якая вісіць у нас у калідоры!



## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА"!

Піша табе дзяўчынка з Беларусі. Завуць мяне Кабак Света. У мяне да цябе, „Зорка", вялікая просьба. Я хачу мець сябра па перапісцы з вашай краіны. Я так думаю, што гэтая перапіска будзе нашым невялікім укладам у барацьбу за мір, бо калі дзеці свету дружаць — умацоўваецца мір!

А зараз новаму сябру аб сабе. Мне 13 год. Я перайшла ў 7 клас. Вучуся добра. Люблю чытаць кнігі аб вайне, аб прыгодах, фантастыку. Збіраю аткрыткі і пераздымкі (калькаманія — рэд.)

**Адрас: БССР, 223138, Мінская вобл., Лагойскі р-н, п/а Крайск, в. Рагозіна, Кабак Света.**

## ЗАГАДКІ

**Зямля белая, насенне чорнае, пяцёра аруць, двое сочаць, адзін кіруе.**

**Гаршчочак разумны, хоць сем дзірак мае.**

**Адзін голасна чытае, двое ў кніжку пaглядае, двое трэціх слухае, чацвёрты — нюхае.**

**Два браты цераз мяжу жывуць, адзін другога не бачыць.**

**Маленькае, кругленькае, да неба дакіне.**

*Адказ у наступным нумары „Зоркі".*

**Адказ на загадку з 26 нумара „Зоркі"**

Загадка: Домік поўны дабра..." (Яйцо і кураня).



## РАЗМАЛЮЙЦЕ КОЛЕРАМІ:

+ СІНІМ — ЧЫРВОНЫМ ^ АРАНЖАВЫМ I КАРЫЧНЕВЫМ
□ ШЭРЫМ II ЗЯЛЁНЫМ • ЧОРНЫМ V РУЖОВЫМ


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## ДЖУНГЛІ

Сёння ў Захара быў першы працоўны дзень пасля заканчэння фінансава-эканамічнага тэхнікума.

— Вось табе заданне, — сказаў яму начальнік Іван Цітовіч. — Трэба падлічыць, колькі дрэў было пасаджана за апошнія гады прадпрыемствамі і ўстановамі нашага горада.

У канцы дня Іван Цітовіч заглянуў да маладога супрацоўніка.

— Штосьці тут не тое, — сказаў Захар. — Калі колькасць пасаджаных дрэў раздзяліць на плошчу, то на месцы нашага горада павінен быць лес, а на тэрыторыі, напрыклад, завода жалезабетонных вырабаў і дрэваапрацоўчага камбіната — непралазныя джунглі. Можа, у справаздачах ідзе гаворка не пра наш горад?.. — сказаў Захар і яшчэ доўга глядзеў за акно, дзе адзінока стаяла невядома калі і кім пасаджаная ліпа.

**Леанід Досаў**

## ПАВУК І МУШКА

Павук у куце пад паветкай
Сплёў з павуцінак тонкіх сетку.
І вось аднойчы ў вечар душны
Ён маладую ўбачыў Мушку.
Кіўнуў ён ветліва галоўкай
І зашаптаў: „Прысядзь, сяброўка.
Цябе, лятуху маладую,
Духмяным мёдам пачастую.
Пасля, нібыта тую лялю,
У гамаку я палюляю".
Была так рада Мушка! Смела
Ля Павука яна прысела.
А Павучына неўпрыкметку
На ўсю яе накінуў сетку.
І ў той дзень не стала Мушкі.
. . . . . . . . . . . . . .
Назаўтра ён — другую гушкаў.

**Браніслаў Мароз**





Адпачынь...

## ТАКСІСТ

— Ці не здаецца вам, — гаворыць пасажыр таксісту, — што трэба было б пачысціць ветравое шкло?

— Пэўна, трэба было б. Ды гэта нічога не дасць. Я забыў дома акуляры.

## МАТРАЦ

На пляжы пані Адэля пытае сваю знаёмую:

— Ці вы не маглі б пазычыць мне той стракаты матрац, што ляжыць побач з вамі?

— Ды што вы! Гэта ж мой муж...

## НЕ СПЯШАЮ

Кастусь з пляшкай гарэлкі ўпаў у яму. Сядзіць там і не вылазіць. Падыходзяць людзі і пытаюць:

— Чаму сядзіш там?

— Чакаю, магчыма, што нейкая разява ўпадзе з закускай, — адказаў Кастусь.

## АДНА ПЕСНЯ

Чатырохгадовы Янка запытаўся ў свайго бацькі:

— Чаму наша мама ніколі не спявае, калі я побач?

— Яна не ўмее спяваць.

— А чаму ж ты часта гаворыш ёй: „У цябе заўсёды адна песня".

## У ТЭАТРЫ

Ідзе спектакль.

— Каб вас чорт узяў! — шэпча трагік. — Вы што, не бачылі таблічку: „За кулісы ўваход чужым забаронены!?"

— Бачыў! Але вы не ўяўляеце сабе, які жах агортвае адзінокага чалавека ў гэтай гіганцкай пустыннай глядзельнай зале...





Паглядзеў праўдзе ў вочы і не вытрымаў позірку.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Ідзе пара.

— Скажы, — пытаецца яна, — ты мяне моцна кахаеш?

— Вядома. Я ж табе ўжо гаварыў, што на руках насіць цябе гатовы.

— А калі б я зараз упала, што б ты рабіў?

— Сказаў бы, што ў магазін прывезлі імпартныя боцікі.

*

Пастаянны наведвальнік правінцыяльнага рэстарана незадаволена гаворыць афіцыянту:

— Як гэта вы маглі пусціць сюды цэлую банду п'яніц?

— Разумееце, сіньёр, — адказвае афіцыянт, — мы ўжо тыдзень не маглі збыць стары гуляш...

*

Паліцэйскі затрымлівае аўтамабіль і кажа вадзіцелю:

— Такую развалюху я нават у сне не назваў бы аўтамабілем.

—Я з гэтым згодзен, — адказвае вадзіцель, — таму ў мяне нават вадзіцельскіх правоў няма.



— Эх, калі б толькі дакладна даведацца, ці дазволена тут рыбу лавіць...

## З „Весніка Задрыпоніі"

## ПІСЬМО КРЫТЫКУ

„Паважаны п. Тухлаядскі! Дзякуй Вам за тое, што Вы нічога не напісалі пра маю апошнюю аповесць. Вы сапраўды джэнтльмен.

Аэліта Барсучок".



## УВАЖЛІВЫ СУСЕД

Аднойчы, ідучы з работы,
Суседку спрытна я дагнаў
І перад ёю, як па нотах,
Такую песню заспяваў:

„Нясеце вы дадому кветкі?
Як пахнуць! Аж займае дых!
Чаго не зробіш для суседкі —
Дазвольце мне панесьці іх!"

Яна мне ўсмешку падарыла:
„Ну што ж, трымайце мой букет.
Не знала, што такі вы мілы
І вельмі ўважлівы сусед!.."

Суседку ўбачыў іншым разам.
І зноў жа мог яе дагнаць,
Але прыкмеціў тут адразу,
Што несла ў гэты раз яна

Не кветкі — дзве цяжкія сумкі,
Паўзла, як быццам той цягач...
Я да яе звярнуўся ў думках:
„Прабач, суседачка, прабач.

Няма ў мяне для сумак сілы,
Ты ж помні, як я нёс букет,
Як ты мне ўсмешку падарыла
І словы: „Ах, які вы мілы
І вельмі ўважлівы сусед!.."

**Сямён Оркін**



## Курёзы

## СВІНКІ-РЫСАКІ

Калі супрацоўнік амерыканскай фірмы, што займаецца продажам свініны, прапанаваў дзесяць год назад ідэю парасячых гонак, на яго паглядзелі як на вар'ята. Цяпер гонкі праводзяцца кожны год у час кірмашу ў горадзе Скрынгфілдэ (штат Ілінойс). На іх пабывала ўжо тры мільёны чалавек.

Прымусіць парасятка бегчы на злом галавы ў патрэбным напрамку — справа складаная. Дрэсіроўка працягваецца некалькі тыдняў: парасят прывучаюць да таго, што на фінішу кожнага чакае міска смятаны з шакаладам. Пасля таго, як умоўны рэфлекс выпрацаваўся, жаданыя міскі замяняюць адной, якая дастаецца толькі лідэру.

Спаборніцтвы праходзяць на авальным трэку, насыпаным апілкамі. Дыстанцыя — трыццаць метраў. У дзень бывае каля дваццаці забегаў, у кожным удзельнічае пяць-шэсць бегуноў. Пераможца вызначаецца па суме ўсіх забегаў, фінальны забег ускладняецца бар'ерамі ў трыццаць-сорак сантыметраў, але і гэтыя перашкоды парасяты пераадольваюць бясстрашна.



Для аптыміста і камень на шыі — упрыгожанне.